

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 19 (606)    28 ТРАЎНЯ 2003 г.

## Дыханне

*Мы дыхаем ружовым небасхілам,*
*Хоць патыхае ад яго і сівізной.*
*Ў каторы раз падзеленай краіне*
*Мы дыхаць мусім злосцю і маной.*

*Зямля ляжыць за нашымі плячыма.*
*Любіць яе балюча. Не любіць,*
*Не дыхаць ёй – наогул немагчыма,*
*Як без паветра, без яе не жыць.*

*Так хочацца, каб неба стала сінім,*
*Каб дыхаць песняй матчынай ізноў,*
*Ды покуль, у падзеленай краіне,*
*Ды дыхаем праклёнамі братоў.*

*Мы мусім пляжыць ліхадзеяў Беларусі,*
*Каб потым зноў рабіць яе сваёй.*
*І іншага няма – мы проста мусім,*
*Каб больш не дыхаць ўласнаю крывёй.*

**Міхаліна Філітовіч,**
студэнтка Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

# Гарадзенская абласная рада ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"

20 траўня ў Горадні адбылося чарговае паседжанне Гарадзенскай абласной Рады Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны".

Рада разгледзела пытанні:

1. Аб падпісцы на газету "Наша слова".

2. Аб звароце да дэпутатаў Гарадзенскага абласнога савета дэпутататаў з нагоды катастрафічнага стану з беларускай мовай у вобласці.

3. Аб "Новай газеце Смаргоні".

Рада вызначыла папярэдні тэрмін правядзення справаздачна-выбарчай канферэнцыі Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на верасень 2003 года.

**Наш кар.**

**Старшыні Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў Карпуцю А. І.**

У апошнія гады катастрафічна скарачаецца выкарыстанне беларускай мовы ў розных галінах адміністрацыйнага, гаспадарчага і культурнага жыцця вобласці. Асабліва трывожыць скарачэнне беларускамоўнага навучання ў гарадах і гарадскіх пасёлках Гарадзеншчыны. Вельмі мізэрны тут набор у падрыхтоўчыя беларускія класы. Няма ў вобласці ніводнай беларускай гімназіі. Не дзейнічае, па сутнасці, пастанова Міністэрства адукацыі Беларусі "Аб дадатковых мерах па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", прынятая ў 2001 годзе. Улічваючы гэтую сітуацыю, заклікаем Вас уключыць у парадак дня чарговай сісіі абласнога Савета пытанне аб выкананні вышэйзгаданай пастановы Міністэрства адукацыі, аб пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў газеце "Гродзенская праўда" і на абласным тэлебачанні, у маркіроўцы тавараў, якія выпускаюцца ў вобласці, у візуальнай інфармацыі на вуліцах гарадоў і гарадскіх пасёлкаў Гарадзеншчыны.

Праблема беларускай мовы – праблема існавання беларусаў як нацыі. Канстытуцыя РБ, і "Закон аб мовах" РБ, і наша з Вамі грамадзянскае сумленне патрабуюць тэрміновага ўмяшання ў гэтую далікатную, але вельмі важную для дэмакратычнага грамадства сферу жыцця. Разлічваем на Вашае разуменне і патрымку.

**Старшыня Гарадзенскай абласной Рады "Грамадскага аб'яднання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"    Місцюкевіч А. І.**
20.05.2003г.

*(Прынятана на паседжанні Гарадзенскай абласной Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".)*



Паседжанне Гарадзенскай абласной Рады ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"

# Сход Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў

22 траўня ў Горадні адбыўся сход Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў з нагоды заявы сакратара аддзялення Дануты Бічэль аб адстаўцы.

Сход прыняў адстаўку Дануты Бічэль і правёў выбары новага сакратара.

У спіс для таемнага галасавання былі ўнесены Мікола Мікуліч - выкладчык ГДзУ імя Янкі Купалы і паэт Юрка Голуб. З перавагай у адзін голас сакратаром Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў абраны **Юрка Голуб.**



**Юрка Голуб выступае пасля абвяшчэння вынікаў галасавання. Побач сябар ТБМ, пастаянны аўтар "Нашага слова" Людміла Кебіч**

***Голуб Юрка*** (Юры Уладзіміравіч; н. 20.10. 1947. в. Горна Зэльвенскага р-на), беларускі паэт. Сябар СБП з 1971 г.

З сялянскай сям'і, якая жыла на хутары за тры кіламетры ад вёскі. Бацька, Уладзімір Васілевіч, і маці. Анісся Васілеўна, родам з в. Горна.

У 1954-58 г. Юрка вучыўся ў пачатковай школе ў в. Горна, у 1958-65 гг. - Зэльвенскай сярэдняй школе. У 1965-70 гг. – студэнт аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ, удзельнічаў у робоце універсітэцкага літаб'яднання "Узлёт". З 1970 працаваў на Гарадзенскай абласной студыі тэлебачання (рэдактарам у рэдакцыі літаратурна-музычных перадач). У 1978 загадваў аддзелам культуры абласной газеты "Гродненская правда". З 1979 загадчык аддзела мастацкага вяшчання Гарадзенскага аблтэлерадыё. З 1972 г. вядзе на абласной студыі тэлебачання штомесячную перадачу "Гродзеншчына літаратурная". Сябар Рады СБП з 1990 г.

Першы верш "Хто не працуе" надрукаваны ў 1963 у ваўкавыскай раённай газеце "Знамя Октября" У 1965 вершы Ю. Голуба з'явіліся на старонках рэспубліканскай перыёдыкі ("Бярозка"). Аўтар шасці паэтычных зборнікаў. Вершам паэта ўласціва вострае адчуванне драматызму сучаснасці, шчодрасць душэўнага самавыяўлення, валоданне сваім творчым голасам непаўторнай манерай пісьма. Выдаў кніжку вершаў для дзяцей. Выступае ў друку з празаічнымі замалёўкамі, перакладамі.

Жыве ў Горадні.

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1    Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар    на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

Кошт падпіскі **6180** руб. пераадрасоўкі руб.    Колькасць камплектаў **1**

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

# Зберагальнікі беларускага слова

Вёска Пяцюлі, што непадалёк ад Радашковічаў, на сучаснай мапе не значыцца. Зараз яна – Новая, але старая назва з ужытку вяскоўцаў ды суседзяў яшчэ не вытручана. Што ні двор, то цэлая энцыклапедыя беларушчыны. У кожнага свой лёс...

Едучы на раварах з краязнаўцам, пісьменнікам Уладзімірам Содалем, супыніліся ля аднаго з агародчыкаў, у якім завіхалася жанчына, збіраючы бульбяных жукоў. Пазнаёміліся – Марыя Гаранская. Запыталіся пра тых, хто памятае Аляксандра Уласава, гаспадара фальварка з Мігаўкі, заснавальніка першай беларускай гімназіі ў Радашковічах, першага рэдактара газеты "Наша ніва", ад якой, як вядома, пачаўся нашаніўскі перыяд беларускага адраджэння. Яна нас, быццам даўно чаканых, з вялікай радасцю запрасіла да хаты:

- Мой муж шмат чаго ведае, пагаварыце, пагутарце з ім.

Сапраўды, Андрэй Юстынавіч, яе муж, ведае шмат чаго і аказаўся цікавым суразмоўцам. У гэтай вёсцы была пачатковая школа. З Андрэем вучыліся дзеці Уласава: Дзіма і Алег. Помніцца, барукаўся з імі і перамог абоіх.

- Вось, каб вы зборалі яго, то я б вам даў па пяць злотых, а так пяць – вам на дваіх, а пяць – пераможцу, - гаварыў Уласаў сваім дзецям.

Дзіўны быў гэты Уласаў! Аднойчы, убачыўшы, як хлапчукі, ідучы з школы з яго дзецьмі, трапна шпурляюць камяні ў тэлеграфныя кубачкі на слупах, лагодна паўшчуваў:

- Здорава, здорава збіваеце! А хто плаціць будзе?

Вядома, што тады менавіта яму давялося заплаціць велічэзны штраф.

Шмат чаго помніць Андрэй Юстынавіч. Распавёў пра вітальны сход, які адбыўся неўзававе пасля прыходу Саветаў у Заходнюю Беларусь. Чуў, як на ім Уласаў гаварыў пра беларусаў з Латвіі, якіх таксама трэба б было далучыць да сваёй этнічнай краіны.

Нарадзіўся Андрэй Гаранскі ў 1926 годзе. скончыў тут чатыры класы па-польску, а радашкоўскую сямігодку закончыў пры немцах, у 1942 годзе. Там ужо вучыліся па-беларуску, пісалі толькі лацінкай. Некаторы час вучыўся у Маладэчанскім гандлёва-адміністрацыйным інстытуце. Слухаў урокі матэматыкі, якія выкладаў знакаміты, сёння вядомы ўсяму свету, доктар філасофіі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы Барыс Кіт. Кінуў вучобу, каб не быць вывезеным ў Германію. Папярэдзілі партызаны, ад якіх ён перасылаў у Маладэчна газеты, лозунгі, улёткі Пасля вызвалення, у 1944 годзе, быў залічаны ў вучэбна-стралковы дывізіён.



Дрэннае харчаванне вымушала навучэнцаў прасіцца на фронт. Але іх туды не адпраўлялі. Удзельнічаў у Румынскіх падзеях, затым, у Венгерскіх. Служыў шафёрам аж да 1951 года. Шафёрам жа працаваў у Радашкоўскай пажарнай службе, потым - электрамантажнікам у Менску, Маладэчне. На пенсію пайшоў з Менскага авіярамонтнага завода, дзе быў апэратарам кацельні.

Пальшчызна, доўгая служба ў войску, гарадское рускамоўе не перамалолі яго беларускасць. Так і застаўся верным роднаму слову, ведаючы тры мовы. Дачка Таццяна, якая працуе на заводзе халадзільнікаў у Менску, пад час апытання на рэферэндуме па ўвядзенні дзвюхмоўя запыталася, чаму ён хоча, каб была адна беларуская мова. Ён адказаў: "Дзве нянькі ў дзіцяці – яно з разбітым носам, тое ж і з дзвюмя мовамі."

- Валодай ты хоць дзесяццю, а родная заўжды будзе адна, і ў мяне на ўсё жыццё – беларуская, – кажа Андрэй Юстыновіч.

Ох, і пашманала ж яго жыццё. Не любіць ён успамінаць асобныя моманты, шкадуе змарнаваны час, калі захапляўся "зялёным змеем". З болем у душы ўспамінае дзесяцімесячнае знаходжанне ў турме, у якую трапіў пасля аўтамабільнай аварыі. І каб не каханне яго жонкі, любай Марыячкі, ляжаць бы яму доўным-даўно на пяцюльскіх могілках. А яна ж, сапраўды, святая жанчына. Як і шмат іншых пяцюльскіх, з чыстым сумленнем. Самаадданая жонка. Усё жыццё адпрацавала ў калгасе, які зараз перажывае цяжкі час. Няма каму працаваць. Палова калгаснай зямлі гуляе. Вясковыя людзі співаюцца. Колісь яна ад цямна да цямна рабіла на калгасных палетках, а дома чакала хатняя гаспадарка ды клопат пра мужа. Бывала, хтось падкажа: "Марыйка, у Радашковічах бачылі твайго – сядзіць анямелы, замёрзлы на лаўцы, адна нага раззутая". Бяжыць туды, цягне па снезе да хаты. Бацькі даўно ўжо махнулі на яго рукой, ат маўляў, хай прападае, калі розуму не мае. Цягала мяхі з мукой і бульбаю, і ... цягала мужа. Яго выцягнула амаль з таго свету, а з цяжкай працы багацца не выцягнула, толькі здароўе надарвала. Затое, так хораша і ўтульна сядзець побач з мужам ля сваёй хаткі-пяцісценкі, што збудавалі калісьці насупраць бацькаўскай, цешыць сябе ўспамінамі пра добрае ў мінулым.

- Жахлівы час – кажа Андрэй Юстынавіч, - калі жылі пры Польшчы ні адзін жыхар вёскі не павесіўся, а зараз больш дваццаці чалавек скончылі жыццё самагубствам... Мне абавязаны выдаць новыя пратэзы. На Менскім пратэзным заводзе сказалі, што грошы ўрадам не выдзелены таму і няма іх. А вось газету "Рэспубліка" дык штогод бясплатна выпісваюць і не пытаюцца якую б я жадаў мець...

На выездзе з Пяцюляў спаткаў вясковец Эдвард Чырак:

- Я вам раскажу пра адных тут, мо выкарыстаеце калі-небудзь.

... Калісь пры тутэйшым пану парабкавала сям'я. Саветы пана прагналі, маёнтак некуды знік, а ў панскай стайні пасялілася гэта сямейка. Пасвілі кароў, мелі шмат авечак. Нелюдзімыя былі, адгарадзіліся ад усіх, нікога да сябе не падпускалі і знацца ні з кім не жадалі. І маглі б жыць багата, прадай толькі тыя аўчыны, што пагонамі ляжалі аж пад самую столь, якія псаваліся і потым выкідваліся. А попыт на іх быў страшэнны. Шкада стала нябогаў калгаснаму кіраўніцтву ды і сорамна: развіты сацыялізм, а сям'я яшчэ да гэтага часу жыве ў панскім хляве, побач з авечкамі. Пабудавалі ім неблагі, утульны дамок. Прапанавалі: пераходзьце, жывіце. Не пайшлі. Тады іх паспрабавалі заманіць туды ўсялякімі ўгаворамі – не выйшла. Узялі і сілком перанеслі іх скарб, а бульдозерам – у вугал хлява. За ноч яны ўсё перанеслі назад, так-сяк падладзілі хлеў, дзіркі аўчынамі пазатыркалі. Больш іх ужо ніхто не чапаў – хай жывуць людзі, як ім хочацца...

З нейкай невыказнай замілаванасцю пакідалі вёску. Адных – было шкада, за іншых – гонар. Шмат хто з вяскоўцаў ведаў, сустракаўся з Аляксандрам Уласавым, з Андрэем Сніткам, тутэйшым буйным землеўладальнікам, апекуном бедных сялянаў, фундатарам усялякіх праграм развіцця беларускай культуры – цесцем Браніслава Тарашкевіча. Цягне туды зноў паслухаць цікавыя расповяды пра мінулы вірлівы час. Яны тут шчыра беларускія і пакуль яшчэ не вычэрпныя, як той бруісты ручаёк, што гамоніць побач.

*Мікола Лавіцкі.*

**На здымку:** Марыя і Андрэй Гаранскія з Пяцюляў.

# Прашу слова

З'яўляюся пастаянным чытачом газеты "Наша слова". Вельмі удзячны газеце за публікацыю цікавых, карысных, пазнавальных матэрыялаў па гісторыі, краязнаўству і іншых кірунках. Заўсёды актуальныя вашы матэрыялы аб падзеях у рэспубліцы і за яе межамі.

Падтрымліваю актыўную пазіцыю газеты ў змаганні за нашу мову, яе адраджэнне і трывалае ўсталяванне ў жыцці нашай Радзімы.

Выдатна разумею складанасць гэтай справы ў наш час, цяжкасці, якія вам даводзіцца пераадольваць.

Разам з тым хачу выказаць некаторыя прапановы па змесце вашага выдання. Паважаныя. Жыццё – гэта не толькі і не заўсёды барацьба і змаганне. Яно, як вядома, больш разнастайнае і шматграннае. Так і нашай газеце, на мой погляд, неабходна больш займальнасці і забаўляльнасці. Зразумела, я не прапаную друкаваць пазбаўленыя ўсялякага сэнсу коміксы або байкі аб страхоццях. Аднак упэўнены ў неабходнасці з дастатковай перыядычнасцю друкаваць, як мага больш, разнастайныя займальныя і забаўляльныя матэрыялы. Чаму б не практыкаваць публікацыю у кожным нумары па адной віктарыне або крыжаванцы на гістарыч-ную, літаратурную або мовазнаўчую тэму.

Напрыклад пад такім звычайным загалоўкам "Ці ведаеш ты гісторыю?" Дзякуючы гэтаму, вы актывізуеце зваротную сувязь з вашымі чытачамі, далучыце да сваіх шэрагаў большую колькасць людзей, асабліва школьнікаў, навучэнцаў, студэнтаў, якім цікава праверыць свае веды, прадэманстраваць іх перад сваімі аднагодкамі. Магчыма цікавасць выклікала б і інфармацыя рубрык "З архіваў" або "Наш архіварыюс", "Гэты дзень сто гадоў назад" і інш.

Вельмі надзённымі і актуальнымі мне падаецца і аб'яўленне газетай конкурсу на самы цікавы расповед аб сваім радаводзе. Справа гэта вельмі патрэбная.

Магчыма дэвізам гэтага конкурсу былі бы словы: "Калі не ведаеш адкуль прыйшоў, то не ведаеш куды пойдзеш". Упэўнены, што знойдуцца чытачы, асабліва сярод школьнікаў, студэнтаў ды і людзей больш сталага ўзросту, якія будуць шукаць свае карані, прысылаць свае радаводы. Зразумела, гэтыя іх даследаванні сваіх продкаў будуць непрафесійныя, няпоўныя, часам наіўныя. Але справа пойдзе. Не можа не пайсці. Цікавасць да сваіх продкаў ніколі не знікае і не знікне. Гэта ж такая карысць для ўсіх

Лічу таксама абсалютна не выключанай неабходнасць друкавання на старонках газеты (відаць на 4-й) гумарыстычнай інфармацыі, кароткіх апавяданняў, баек, вершаў, анекдотаў. Пачуццём гумару, дасціпнасцю,уменнем смяяцца з самога сябе здаўна ганарыўся наш слаўны народ.

Не ўпэўнены. Але таксама відаць ёсць неабходнасць акрамя афіцыйных аб'яў, запрашэнняў на разнастайныя імпрэзы і г. д. друкаваць прыватныя аб'явы (платныя) аб наяўнасці або неабходнасці набыцця той ці іншай кнігі, падручніка, праграмы, дыскеты, касеты і г. д.

У дадатак да вышэйсказанага дасылаю віктарыну "Старонкі гісторыі Вялікага княства Літоўскага". Яна можа быць выкарыстана і на ўроку ў школе і пры правядзенні вечарын у школе або ў летніках. Яе аўтарам з'яўляецца вучань 2 "в" класа СШ № 36 Янка Сергіевіч.

***1. Які горад лічыцца першай сталіцай ВКЛ?***
+ Навагародак,
Масква,
Менск,
Берасце,

***2. Сталіца ВКЛ была перанесена з Навагародка ў:***
Гальшаны,
+ Вільню,
Полацк,
Горадню.

***3. Хто з вялікіх князёў літоўскіх заключыў Крэўскую унію?***
Вітаўт,
+ Ягайла,
Альгерд,
Гедымін.

***4. Пры якім князю ВКЛ стала найбуйнейшай еўрапейскай дзяржавай?***
Віцені,
Гедыміне,
Ягайле,
+ Вітаўце.

***5. Хто з літоўскіх князёў прыняў удзел у Кулікоўскай бітве 8 верасня 1380 г.?***
Кейстут,
Яўнут,
+ Андрэй Полацкі,
Ягайла.

***6. У паходзе якога татарскага хана прыняў удзел князь ВКЛ Ягайла?***
Батыя,
+ Мамая,
Чынгізхана,
Цемучына,

***7. У якім годзе адбылася Грунвальдская бітва?***
1400,
1392,
1408,
+ 1410.

***8. Якіх трох татарскіх князёў перамог вялікі князь літоўскі Альгерд у бітве на рацэ Сінія Воды?***
+Кутлубуга,
+Хачэбая,
Чынгізхана,
Батыя,
+Дзімітрыя,

***9. Хто ў ВКЛ з'яўляўся камандуючым узброенымі сіламі?***
Канцлер,
Ваявода,
+Найвышэйшы гетман,
Кашталян.

***10. У час княжання якога князя ВКЛ упершыню ўпамінаецца герб "Пагоня"?***
Гедымін,
Войшалк,
Вітаўт,
+Віцень.

*Васіль Сергіевіч,*
*Янук Сергіевіч.*





# Тэатра фальклору "Матуліна хата" ў Медыцынскім універсітэце

Усё ад матулінай хаты, ад яе парога тут пачыналася жыццё, па сцяжынцы ад ганачка кожны з нас пайшоў у вялікі свет.

Сюды да матулінай хаты заўсёды цягне нябачная сіла матчынай любові, у якім бы ўзросце ты не быў, для яе ты заўсёды дзіця. Яна матуля, выглядаючы ў ваконца на дарогу, адкуль ты прыйдзеш, хоча хутчэй цябе абняць і на вачах з'явіцца вільготная слязінка радасці.

Беларускі Дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, установа далёка не мастацкая і тым больш прыемна, што рэктар П. І. Беспальчук і прарэктар па выхаваўчай рабоце У. А. Манулік, вельмі паспрыялі стрварэнню музычна-літаратурнай гасцёўні, гаспадыняй яе стала чалавек улюблёны у твор часць Л. П. Трафімчук, а затым і тэатра фальклору "Матуліна хата", мастацкім кіраўніком і балетмайстэрам-пастаноўшчыкам стаў Мікола Котаў, музычнай часткай і вакалам кіруе прафесар А. М. Аляхновіч.

З вялікай ахвотай займаюцца ў тэатры сту-



У матулінай хаце і жыць весялей



Ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" тэатр фальклору Матуліна хата вітае Яўген Лецка

дэнты, выкладчыкі і выхаваўцелі, не так даўно адбылася прэм'ера народнага відовішча з песнямі, танцамі, жартамі абрадавымі дзеяннямі і цудоўнай назвай "На вячорке ў Медуніверсітэт". Шчырыя аладысменты гледачоў, якія самі сталі ўдзельнікамі спеваў, народных гульняў і частаваліся вясковай каўбаскай, а затым не хацелі пакідаць залу, вочы іх ззялі раласцю.

У добры шлях і новых праграм, "Матуліна хата", нясі людзям радасць і надзею, каб заўсёды памяталі і ішлі да матулінай хаты, дзе заўжды цёпла.

*Мікола Котаў, навуковы супрацоўнік НДЛ фальклору БДУ.*

## *Найлепшыя работы конкурсу ТБМ "Як мы пазнаёміліся".*

***Мы пачынаем друкаваць аповеды, дасланыя на конкурс "Як мы пазнаёміліся". Вашай увазе прапануецца творчая работа пераможцаў - Яны Мельнікавай і Максіма Маслава з г. Слоніма Гродзенскай вобласці.***

## Шляхі кахання

Упершыню я пабачыў цябе на золаку. Ты ішла побач з бацькамі па бязмежнай пустыні. Вы уцякалі ад ворагаў, гэта значыць ад майго народу. Ты ішла моўчкі, схіліўшы набок галаву. Твае валасы выбіваліся з-пад хусткі, твае ногі ледзьве ступалі па гарачым пяску, вочы твае, сінія, як акіян, здавалася, перасохлі ад гарачыні паветра... Я стаяў у захапленні, нібыта дзіця, такім незвычайным было тваё хараство...

*Мой рыцар, у той дзень вы праімчаліся праз маё жыццё так хутка, што я не паспела спытаць, як Вашае імя. Вы спяшаліся аддаць сваё жыццё, але не мне... Яно належала нашаму народу. Вас чакала крывавая бітва з ворагам, у вашых вачах я пабачыла рашучасць, а вашыя рукі моцна трымалі зброю: подых смерці ўжо дакрануўся да вашага твару... Лёс, які я ніяк не магла змяніць. Няўжо мы ніколі не сустрэнемся ізноў?*

Твой першы баль. Я памятаю, як ты ўвайшла ў залу, якога колеру была свая сукенка, якія кветкі былі ў тваіх валасах. "Як мімалётнае трызненне, як геній чыстай пекнаты"... Нерашуча я стаяў зусім блізка ад цябе, мой анёл, так блізка, што нават адчуваў прыемную гарачыню твайго духмянага цела. Крок насустрач - і вось ўжо твая маленькая цёплая далонь у маёй. Мы танцуем мазурку. Твой твар успыхвае ад аднаго майго позірку, твае вочы блішчаць, і ў іх я бачу ўсю залу: паны, панны і паненкі - усе назіраюць за намі, увесь свет кружыцца вакол нас. "І сіл няма, сказаць жадаю, анёл мой, як я вас люблю!".

***

*Памятаеш, як мы сядзелі адзін насупраць аднаго, гледзячы на начныя агеньчыкі ў акенцах дамоў. А між намі быў акіян неба ў зорках-чоўнах і ветразь народжанага кахання...*

"Я ніколі не казаў табе, але... Зараз скажу, проста так, каб ты ведала... Я... кахаю...цябе..."

*Памятаеш?*

Памятаю!

*А потым акіян зрабіўся такім маленькім-маленькім, і зоркі апынуліся зусім побач, толькі працягні далонь. І цішыня была такая, што чутно было, як б'ецца тваё сэрца. Я чула, як б'ецца тваё сэрца...*

*Твае вочы, я пазнала іх. Яны - блакітны акіян кахання...*

Твой подых, я бачыў цябе раней. Ён гарачы, як вецер пустыні...

*Твае рукі - гэта рукі рыцара, які звыкся трымаць ў іх зброю.*

Твае ножкі, яны цудоўна танцуюць мазурку.

*Прывітанне, мой любы!*

Прывітанне, анёл мой!

*"Я ніколі не казала табе, але зараз... Зараз скажу, проста, каб ты ведаў... Я... чакала... цябе..."*

# Сацыяльнае апытанне на тэму: "Беларуская мова ў жыцці сучаснага грамадзяніна"

Што такое сацыяльнае апытанне ведае, мабыць, і дзіця, якое ходзіць у садок. А адбываецца гэта таму, што вельмі ж распаўсюджаная рэч - апытанні. Але карэспандэнты і журналісты не проста так, дзеля асалоды падыходзяць да незнаёмцаў на вуліцах і задаюць ім пэўныя пытанні. Шмат назбіралася праблем, якія павінны хваляваць, і хвалюють сучаснага чалавека. Адну з такіх я і паспрабавала хоць крыху разгледзець.

Такім чынам, тэма даследвання: "Беларуская мова ў жыцці сучаснага беларуса". Пытанні, на якія патрабавалася даць адказы:

***А) Якую мову вы лічыце роднай: рускую ці беларускую?***

***Б) Якую мову вы лічыце больш мілагучнай, прыгожай: рускую ці беларускую?***

***В) Ці размаўляеце Вы на беларускай мове Калі "не", то чаму?***

**1) Настаўніца англійскай мовы; больш за 30 гадоў:**

А) рускую,

Б) беларускую,

В) не размаўляю, бо родная мова для мяне - руская.

**2) Вучаніца 11 кл.; 16 гадоў:**

А) руская,

Б) руская,

В) Я не ведаю беларускую мову.

**3) СП "Мінскінтэркапс", нам. начальніка нейкага аддзела; амаль 41 год:**

А) у мяне 2 родныя мовы: руская і беларуская,

Б) я лічу іх аднолькава прыгожымі,

В) таму што лічу беларускую мову - літаратурнай мовай. А вось руская мова падыходзіць і дзеля звычайных размоў, і дзеля літаратурных твораў.

**4) Хлопец, які "проста працуе"; 19 гадоў:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) дрэнна вучылі ў школе.

**5) Таксама хлопец, які "проста праацуе"; 18 гадоў:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) дрэнна ведаю беларускую мову.

**6) Кардыёлаг; 32 гады:**

А) беларускую,

Б) беларускую,

В) таму, што не жадаю псаваць прыгажосць роднай мовы сваім няправільным вымаўленнем.

**7) Настаўніца музыкі; 38 гадоў:**

А) беларускую,

Б) беларускую,

В) таму, што ніхто размаўляць не жадае.

**8) Супрацоўнік фірмы, дырэктар фан-клуба; 20 гадоў:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) беларуская мова грубая. Ды і не падабаецца яна мне.

**9) студэнтка БДПА; 18 гадоў:**

а) рускую (а на самой справе - украінскую),

б) рускую,

в) на беларускай мове нязручна будаваць сказы.

**10) Супрацоўніца НДІ; 21 год:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) не помятаю, а адсюль, і не разумею беларускую мову.

**11) Вучаніца 11 кл.; 17 гадоў:**

А) беларускю,

Б) рускую,

В) таму, што для мяне больш прыгожай мовай з'яўляецца руская мова.

**12) Вучаніца 10 кл.; 15 год:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) Гучанне напамінае вёску, гразь, нешта брыдкае.

**13) Студэнтка універсітэта замежных моў; 21 год:**

А) беларускую,

Б) беларускую,

В) размаўляю на беларускай мове ў часіны эмацыяналльнага ўздыму.

**14) Студэнтка універсітэта культуры; 22 гады:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) таму, што родная - руская мова.

**15)Акушэрка; 35 гадоў:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) калі трэба, тады размаўляю па-беларуску.

**16) Студэнт ліцэя пры БДПА; 17 год:**

А) беларускую і толькі беларускую.

Б) беларускую,

В) ёсць жаданне размаўляць (і размаўляю час ад часу) на роднай мове, але заўсёды адчуваю сябе не ў сваей талерцы (або "белай варонай").

**17) Акушэрка; 29 гадоў:**

А) рускую,

Б) рускую,

В) толкам не ведаю беларускю мову.

**18) Студэнт БДПА; 17 год:**

А) беларускую,

Б) рускую,

В) большасць насельніцтва размаўляе на рускай мове, а таму не ўсе зразумеюць беларускую.

**19) Эканаміст; 32 гады:**

А) беларускую,

Б) рускую,

В) ну, не падабаецца мне родная мова!

**20) Пенсіянерка, але працуе; 65 гадоў:**

А) як рускую, так і беларускую,

Б) беларускую,

В) я добра не ведаю ні рускую, ні беларускую, а таму размаўляю на "трасянцы."

Я хачу зрабіць падагульненне свайму невялічкаму даследванню: з 20 чалавек апытанных 11 чалавек лічаць рускую мову роднай.

Зыходзячы з адказаў людзей, можна прыйсці да наступнага выніку: калі б у нашых сярэдніх школах (ды і не толькі ў школах) надавалі больш увагі пытанням "Роля беларускай мовы ў жыцці грамадзян РБ" і, увогуле, "Беларуская мова і самасвядомасць - непадзельныя паняцці", то і адказы на пытанне "Чаму Вы не размаўляеце на беларускай мове?" не дайшлі б да такога абсурду.

Напрыклад: "гучанне беларускіх слоў напамінае гразь, вёску, нешта брыдкае, "на беларускай мове нязручна будаваць сказы", беларуская мова грубая", "не помню і не разумею беларускую мову". А можа мне хто-небудзь растлумачыць, як можна забыцца на родную мову; як можна не разумець яе?

Я, безумоўна, разумею, што вельмі мала людзей, якія дасканальна валодаюць беларускай мовай, але хто ці што нам не дае пазнаць глыбіні нашай чысцюткай белай мовы? Можа гэта нежаданне быць "белымі варонамі" ці сорам перад іншымі за "вясковую" беларускую мову?

А, можа, гэта стаўленне дзяржавы, якая назву Беларусь зберагла, а мову - аснову, сутнасць яе - ігнаруе?

А так хацелася б, каб наш край быў адметны ва ўсім. У тым ліку, і павагай да мовы...

*Сташкевіч Настасся, студэнтка 1-га курса БДТУ.*



№ 19 (606) 28 ТРАЎНЯ 2003 г. Наша слова

# З гісторыі вёскі Будча

Вёска Будча знаходзіцца на ўсходзе Ганцавіцкага раёна Берасцейскай вобласці на самай мяжы з Клецкім раёнам Менскай вобласці. сто гадоў таму назад яна ўваходзіла ў склад Слуцкага павету Менскай губерні. Паколькі мы пачнём з часоў больш даўніх, то трэба яшчэ адзначыць. што вёска Будча знаходзіцца на правым беразе р. Лань некалькі дзесяткаў кіламетраў па цячэнні ніжэй г. Клецка.

Упершыню вёска Будча ўпамінаецца ў Літоўскай метрыцы пад назвай Буча, дзе гаворыцца, што князь Пётр Міхайлавіч Дамадканавіч у 1515 г. прадаў "навечна" Фёдару Яраславічу дзве вёскі, у тым ліку Бучу, за 150 коп. літоўскіх грошаў. *(Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў РФ, ф.389, воп.1, кн.1).* Прозвішча **Яраславіч** тут, хутчэй за усё, паказвае прыналежнасць да пэўнай галіны Рурыкавічаў, а не імя па бацьку. Князь Фёдар Іванавіч Яраславіч у той час валодаў Клецкам. Яго дзед быў шваграм Вял. князя Маскоўскага Васіля II, бацька, напэўна, уцёк ад Дзмітрыя Шамякі ў час грамадзянскай вайны ў Масковіі ў сяр. XУ ст.

У пачатку XУII ст. Буча (Будча) належала Кацярыне Высоцкай, аб чым сведчыць дакумент аб спрэчцы Высоцкай з уладальнікам суседняй вёскі Чудзін пра тое, каму павінна належаць Замошша (1603 г.). Ёсць падставы мяркаваць. што Кацярына Высоцкая нейкім чынам звязана з родам Кавячынскіх. Тэрыторыя бучскага маёнтка тады ўваходзіла ў склад Навагрудскага ваяводства.

У 1623 г., калі вёскай валодала, па-ранейшаму, Кацярына Высоцкая, жонкай Яна Жука. у Бучы ***"за пазваленем пана і дзедзіча тое меснасці"*** была пабудавана царква. Царква была ўніяцкай, аб чым сведчыць блаславенне кіраўніка ўніяцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага Вельяміна Руцкага. Руцкі працягваў справу папярэдняга мітрапаліта Іпата Пацея і, побач з арцыбіскупам Полацкім Іясафатам Кунцэвічам, вельмі шмат паспрыяў распаўсюджанню ўніяцтва на беларускіх землях. На карысць царквы належала выконваць "павіннасці: цяглае і баярскае" - па 2 карцы збожжа (1\2- жыта, 1\2 – грэчкі. 1 карац аўсу) меры клецкай з кожнай валокі. Тыя, хто меў борці, давалі па фунту воску.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захаваліся інвентары за 1643-1645 гг. Прычым упершыню ў дакументах ужываецца назва не толькі Буча. але і Будча. У наступных дакументах паралельна ўпамінаюцца абедзве назвы. Яшчэ адна асаблівасць інвентароў, што складзены яны былі на польскай мове, у той час, як папярэднія дакументы на старабеларускай (рускай) мове. Справы ў гаспадара Будчы Аляксандра Яна Жука, відаць, ішлі не надта добра і ў самым канцы 1642 г. ён перадаў вёску у застаўнае валоданне Ярэму Зарэмбе на тры гады за 8500 злотых. Але ўжо ў пачатку 1643 г. маёнтак з вёскай пераходзіць да Міхала Караля Радзівіла, які, заплаціў заставу ў памеры 11000 злотых. У адпаведнасці са Статутам ВКЛ застава – гэта форма забеспячэння пазыкі. Калі пазычаная сума не вярталася ў вызначыны тэрмін, маёнтак пераходзіў да новага ўладальніка. Так, магчыма, адбылося і з Будчай. Праўда, быў яшчэ судовы працэс паводле рашэння якога Радзівіл вымушаны быў заплаціць яшчэ 1000 злотых доўгу Аляксандра Яна Жука нейкаму Магільніцкаму.

У панскім двары ў той час знаходзіўся новы дом, у якім было дзве святліцы, дзве каморы, паміж святліцамі – сені з ганкам, вокны ў доме былі шкляныя, печы – "паліваныя". дах – з драніцы. У двары былі гаксама гаспадарчыя пабудовы: кухня, пякарня, бровар, саладоўня, стайня, тры свіраны, гумно, дзве адрыны, абора, млын, кузня Побач з панскім домам стаяла царква (хутчэй за усё, уніяцкая). Найбольшую частку панскага поля займала жыта. Двор меў каля сямі дзесяткаў борцяў

Сяляне апрацоўвалі па 1\2, радзей цэлую валоку. Колькасць цяглых сялянскіх гаспадарак (дымоў) пасля пераходу вёскі да Радзівілаў вырасла больш, чым удвая і дасягнула 48. Сяляне працавалі на паншчыне па 3 дні ў тыдзень з валокі і, у дадатак, па 1 дню з дыма. Акрамя таго сяляне вартавалі панскі двор, выконвалі падводную павіннасць. Чынш плацілі грашыма, а таксама прадуктамі (авёс, гусі, куры, яйкі, грыбы, ільняное сем'е). Меншы памер павіннасцяў быў у войта, цеслі, бортніка.

У інвентарах пералічаны ўсе сяляне-гаспадары, у многіх акрамя імя (Санюк, Васіль, Пятрук, Семко і г.д.), указваюцца і прозвішчы (Ігнатовіч, Руля, Лужанін, Петрашэня і інш.). Цяпер менавіта такіх прозвішчаў сярод жыхароў вёскі няма.

Наступныя звесткі пра Будчу датуюцца ўжо 1738 г. Напэўна не абмінула вёску крывавая віхура сярэдзіны XУII ст., вядомая ў гісторыі пад назвай "патоп". Ваенныя дзеянні адбываліся недалёка ад Будчы. У 1654 г. двухтысячны аддзел казакаў спрабаваў узяць Слуцк, у 1654 г. аддзел маскоўскага стольніка Ізмайлава ўзяў Клецк, а "литовских людей побили всех" *(цытата па кн. М.Ткачоў. Замкі і людзі. Мн., 1991.)* У 1655 г. 20-тысячнае войска ваяводы Трубяцкога, якому дапамагаў аддзел казакаў І. Залатарэнкі, двойчы трымала ў аблозе Слуцк. Горад узяць не удалося, але што давялося перажыць навакольным сёлам, можна меркаваць хаця б па творах мастацкай літаратуры. "Пожары обхватывали деревни; скот и лошади, которые не угонялись за войском, были избиваемы тут же на месте. (...) Дыбом стал бы ныне волос от тех страшных знаков свирепства полудикого века, которые пронесли везде запорожцы. Избитые младенцы, отрезанные груди у женщин, содранная кожа с ног по колена у выпущенных на свободу". Так апісваў дзеянні казакаў не нейкі іх недабразычліўца, гэта М. Гогаль і яго славутая аповесць "Тарас Бульба" без скарачэнняў школьнай хрэстаматыі. На жаль і іншыя бакі ваенных канфліктаў на нашай зямлі паводзілі сябе мала лепей. Невыпадкова не засталося зараз слядоў ні панскага двара (акрамя тапоніма Дворышча), ні той першай царквы, што належала такім нелюбым для казакаў і маскоўскага войска ўніятам. Больш таго, існуе паданне, што ў пач. XУIII ст., нейкія людзі, што ратаваліся ўжо ад шведскага войска, у другі раз заснавалі Будчу зноў жа на правым беразе Лані але некалькі кіламетраў ніжэй па цячэнні, тое месца цяпер называецца Селішча.. Так гэта ці не, але амаль 100 гадоў выпадае з дакументаванай гісторыі вёскі.

У 1738 г. крайчы літоўскі Марцін Мікалай Радзівіл перадаў Будчу зноў жа ў застаўнае валоданне Багуславу Яну Чыжу, суддзі наваградскага суда, за 1375 бітых талераў. У 1740 г. Б. Я.Чыж перадаў заставу Віктару Ёзафу Хелхоўскаму, а той, у сваю чаргу, Даменіку Рэйтану, стражніку Наваградскага ваяводства (1754 г.). У 1778 г. менскі ваявода князь Ёзаф Радзівіл выкупіў заставу ў Станіслава і Антона Рэйтанаў.

Радзівілы валодалі Будчай да адмены прыгоннага права. Але яшчэ раней, у 1836 г., Будча прыцягнула ўвагу ўлады. У гэты час царызм імкнуўся ўсяляк павялічыць уплыў праваслаўя. Нагадаю, што жыхары Будчы, гэтак жа, як і ўсіх іншых навакольных вёсак на той час былі ўніятамі. Вясковая царква знаходзілася ў заняпалым стане: сяляне і самі былі беднымі, пан (Леў Радзівіл), а тым больш дзяржава не дапамагалі ўніятам. Магчыма, у Будчанскай Троіцкай царкве не было нават сталага святара. Скарыстаўшы гэта, старобінскі праваслаўны святар Іаан, што выконваў тады абавязкі благачыннага Слуцкага павету Менскай губерні, восенню 1836 г. схіліў жыхароў Будчы да пераходу ў праваслаўе. Пры гэтым было паабяцана, што кансісторыя прышле добрага сталага святара і выдзеліць сродкі на капітальны, як цяпер мы б сказалі, рамонт царквы. Характэрна, што ўсю сваю агітацыйную работу Іаан праводзіў у прысутнасці начальніка паліцэйскага ўпраўлення па Слуцкаму і Бабруйскаму паветах. Праўда, пры тым, што ў вёсцы на той час налічвалася, прыблізна 50 двароў і каля 350 душ, за пераход у праваслаўе выказаліся толькі 29 чалавек *(Нац. архіў РБ, ф.295, в.1).* Але ва ўмовах таго часу, прайшло 6 год пасля Лістападаўскага паўстання ў Польшчы і заставалася 3 гады да поўнай ліквідацыі ўніяцтва на беларускіх землях, і тае дзяржаўнай царкоўнай палітыкі гэтага было дастаткова.

Пасля адпаведнай бюракратычнай працэдуры кансісторыя выдзеліла для Будчанскай Троіцкай царквы 1000 рублёў асігнацыямі, у тым ліку для першапачатковага "обзаведения" святара 200 рублёў. Ім стаў 23-гадовы выпускнік духоўнай семінарыі Іван Данкевіч. Дарэчы, у царкоўнай даведцы сказана, што Данкевіч у семінарыі навучаўся мове яўрэйскай "порядочно", мовам грэчаскай, нямецкай, французскай, польскай "с успехом". *(НА РБ, ф.136, в.1).* У 1841 г. для царквы была адмерана зямля на Рыгорцы, Дворышчы і Мошневе *(НА РБ, ф.120, в.1)*, а сялянам, што раней карысталіся гэтымі надзеламі, была зроблена замена за кошт "земли праздной под названием пустоши". Можна ўявіць, колькі поту давялося праліць тым гаспадарам, каб распрацаваць надзелы на новым месцы. Дзеля справядлівасці, трэба адзначыць, што і царкоўная зямля не была надта ўрадлівай.

У XIX ст. у Расійскай імперыі перыядычна праводзіліся своеасаблівыя перапісы прыгонных сялян, так званыя "рэвізскія сказкі". У Будчы гэтыя сказкі складаліся у 1816, 1834, і 1850 гг. У 1816 г. у вёсцы налічвалася 60 двароў, акрамя таго пражывала адна неаседлая сям'я Янкі Цыгана. Мужчынскага сялянскага насельніцтва налічвалася 190 душ. Паводле рэвізскай сказкі 1834 г. у вёсцы было 50 двароў, у тым ліку 3 без мужчын, усяго сялян было 346, у тым ліку 184 мужчынскіх душ і 162 жаночых. У 1850 г. было 55 двароў і 319 жыхароў, мужчын і жанчын, адпаведна - 165 і 154. Агульная колькасць насельніцтва, як бачна, прыкметна скарачалася. Галоўнай прычынай гэтага была высокая смяротнасць сярод сялян. Дзіцячая смяротнасць слаба адлюстравана ў рэвізскіх сказках, бо той, хто паміж сказкамі паспеў і нарадзіцца, і памерці, ні ў якія дакументы, акрамя царкоўных, і не запісваўся. Затое перапісы паказваюць, што паміралі і ў 10. і ў 20, і ў 30, і ў 40 гадоў. Людзі ў цяжкай працы пры кепскім харчаванні згаралі, як свечкі, асабліва гэта датычыць замужніх жанчын, здароўем якіх грамадства плаціла за тое, каб зусім не вымерці. У 1850 г. узрост больш 50 гадоў мелі 14 мужчын і 10 жанчын, а, па цяперашняму кажучы, пенсійны ўзрост (60 гадоў і болей мужчыны і 55 гадоў і болей жанчыны) мелі, адпаведна, 7 і 6 чалавек. Самым старэйшым жыхаром вёскі быў 84-х гадовы Даніла Стральчэня.

Перыядычна некага з хлопцаў забіралі ў рэкруты, ці як казалі ў вёсцы, у маскалі. Наўрад, ці магчыма была нейкая справядлівасць у гэтай справе. У рэкрутах аказаліся адразу два сыны Сцяпана Савені Хведар і Якаў, адзіны сын Андрэя Петрушэні Хведар і г.д. Насупраць некаторых прозвішчаў, напрыклад, Дзям'яна Андрэевіча Кандрацені, у рэвізскай сказцы стаяць не надта разборлівыя паметкі, якія можна прачытаць як: "... въ Сибирь".

Дэмаграфічны крызіс няхай сабе ў адной, але ж, напэўна, даволі звычайнай, тыповай вёсцы, з'яўляецца дадатковым сведчаннем крызісу прыгонніцкай гаспадаркі і неабходнасці сялянскай рэформы. Пачалася яна, як вядома у 1861 г., але выкупны акт паміж князем Львом Радзівілам і сялянамі Чудзінскай грамады Круговічкай воласці, у якую ўваходзілі Будча (у дакуменце Буча) і Чудзін, быў складзены Слуцкім міравым з'ездам толькі праз 9 з паловай гадоў восенню 1870 г. У адпаведнасці з актам у Чудзіне і Будчы тады было 302 мужчынскага полу рэвізскіх душ і 91 сялянская гаспадарка. Сялянам перадаваўся ў валоданне поўны надзел, які складаў 1863 дзесяціны і 18 сажанняў абкладзенай плацяжом зямлі, акрамя таго 437 (па іншых звестках 637) дзесяцін неабкладзеных плацяжом, у асноўным, хмызнякоў. Ім было прадастаўлена права пасвіць жывёлу у памешчыцкім лесе на ранейшых падставах. Паверачная камісія аднесла сялянскія наделы да 10 разраду, улічыла 10%-нае, напэўна, уведзенае пасля паўстання 1863 г., зніжэнне плацяжоў і ўстанавіла іх у памеры 54 капейкі з дзесяціны, з улікам капіталізацыі 6% у год гэта склала, прыблізна, 9 рублёў з дзесяціны. Ад імя Радзівіла акт падпісаў яго паверaны, асцярожныя і не надта пісьменныя сяляне, на ўсялякі выпадак, дакумент не падпісалі, але і скаргаў у губернскае "прысутствіе" не падавалі, так што акт уступіў у законную сілу.

За 5 гадоў да гэтага быў прыняты дакумент, які гэтак жа, як зніжэнне выкупных плацяжоў, можна звязаць з вынікамі паўстання 1863 г., калі генерал-губернатар М. Мураўёў імкнуўся знайсці апору ў беларускім сялянстве ў барацьбе са шляхецкімі рэвалюцыянерамі. Старшыня Круговіцкага валаснога праўлення Аляксандр Чабатарэнка падпісаў дакумент на падставе прадпісання міравога пасярэдніка. Прадпісанне, у сваю чаргу, было складзена на аснове асобага распараджэння графа Мураўёва, праўда, чамусьці толькі праз паўтара гады пасля яго. У адпаведнасці з названым дакументам сяляне Будчы (Бучы), гэтак жа, як і суседніх Чудзіна, Лактышоў, Дзяніскавіч, мелі права лавіць рыбу ў Лані ў тых месцах. дзе хаця б адзін бераг належаў сялянам *(НА РБ, ф.242).*

У 1870 –80-х гг. на аснове новага землеўпарадкавання (стражылы кажуць – "другой памеры") у вёсцы фармуюцца асноўныя вуліцы.

У 1890 г. у Будчы была адкрыта школа пісьменства, у 1893/94 гг. у ёй займалася 30 хлопчыкаў, заняткі вёў настаўнік пад наглядам прыходскага праваслаўнага святара з Дзяніскавіч. Царквы ў Будчы на той час не было, яна адчынілася на Спаса ў 1896 г. (У зводзе помнікаў Будчанская царква чамусьці названа Юр'еўскай). Акрамя царквы і школы адметным месцам у вёсцы была карчма. На арандаванай у князя Антона Вільгельмавіча Радзівіла зямлі ёю валодаў Пейсах Лямперт.

Такой Будча сустракала XX ст., стагоддзе на працягу якога вёска паспела пабываць у складзе 4 дзяржаў, перажыла некалькі акупацый, і аб гэтым я спадзяюся яшчэ прадоўжыць аповед.

***Аляксандар Іспасовіч.***

*(Пры напісанні артыкула выкарыстаны матэрыялы, сабраныя будчанскім краязнаўцам Хведарам Барысавічам Карпенем.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 05. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 1335.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)